КАРЭСПАНДЭНЦЫЯ З МІНСКА

# Радзіма аўтагігантаў

Калі вы паедзеце па аўтастрадзе з Мінска ў бок Масквы, то справа па шашы ўбачыце прамысловыя карпусы. Створаныя са шкла і бетона, велічна ідучыя ў неба, яны падступаюць да самай шашы. Не выходзячы з машыны, на стэндзе прачытаеце: „Беларускі аўтамабільны завод". Тут, у горадзе Жодзіна, нараджаюцца магутныя БелАЗы, якія заваявалі сабе трывалую славу.

Беларускі аўтамабільны завод з'яўляецца адзіным у сваім родзе заводам вялікагрузных машын у СССР. Ён створан у небывала кароткім тэрміне. На працягу кастрычніка 1958 года быў змантаваны канвеер і сабраны першы аўтамабіль грузапад'ёмнасцю 25 тон, а з 2 лютага 1959 года, роўна на год раней намечанага тэрміну ў Савецкім Саюзе пачаўся стабільны серыйны выпуск цяжкіх аўтасамазвалаў.

Дваццаціпяцітонная машына адразу была ўсеагульна прызнана. Але ўжо к канцу 1960 года на заводзе акрэслілі, што яна прадстаўляе маральна ўстарэлую мадэль. У канструктарскім бюро завода распрацоўваліся чарцяжы больш сучаснай машыны, вядомага 27-тоннага „БелАЗ-540", зборка якога пачалася ў верасні 1961 года. Яго перавага ў параўнанні з папярэднікам бясспрэчная. Высокая хуткасць (больш 50 кіламетраў у гадзіну), дасканалая манеўранасць, плаўны ход, выгоднае кіраванне, гідрамеханічная трансмісія, дазваляючая самой машыне рэгуляваць хуткасць, самае эфектыўнае выкарыстанне магутнасці рухавіка — усё гэта высока ацанілі кампетэнтныя асобы. А шафёры-практыкі далі аўтагіганту сваё названне — „люкс-машына".

„БелАЗ-540" аказаўся настолькі арыгінальнай і патрэбнай машынай, што Дзяржаўная камісія рэкамендавала запуск яго ў серыйную вытворчасць да заканчэння выпрабаванняў. Спецыялісты Лейпцыгскай ярмаркі ў 1965 годзе аднадушна прысудзілі яму Залаты медаль.

Дасканаласць і высокія эксплуатацыйныя якасці зрабілі 27-тонны аўтасамазвал базавай мадэллю для цэлага сямейства яшчэ больш магутных самазвалаў з шырокай уніфікацыяй вузлоў і дэталяў. Не прайшло і чатырох гадоў, як на базе яго былі распрацаваны канструкцыі 40-тоннага аўтасамазвала, таксама заваяваўшага Залаты медаль на Лейпцыгскай ярмарцы ў 1967 годзе, а таксама аўтапаяздоў грузапад'ёмнасцю 45 і 60 тон. Потым пайшлі самазвалы асоба вялікай грузапад'ёмнасці. Але гэта ўжо іншая гісторыя.

Ствараючы вялікагрузныя машыны, канструктары завода знайшлі і прымянілі нямала тэхнічных навінак. Іх пнеўмагідраўлічныя падвескі, робячыя ход аўтамабіляў мяккім, не маюць канкурэнтаў не толькі ў Савецкім Саюзе, але і ва ўсёй Еўропе.

Цяпер без самазвалаў Беларускага аўтамабільнага завода па сутнасці немагчыма вялікая транспартная аўтагаспадарка краіны. Яны дазваляюць паскорыць увод у эксплуатацыю прадпрыемстваў горназдабываючай прамысловасці і энергетыкі, асабліва ў Сібіры, Якуціі, значна зніжаюць будаўнічыя выдаткі, рэзка павышаюць вытворчасць працы.

БелАЗы добра зарэкамендавалі сябе і за рубяжамі Савецкага Саюза. Сёння іх можна сустрэць у многіх краінах Афрыкі і Азіі.



*Аўтасамазвал „БелАЗ-540", грузапад'ёмнасць 27 тон, магутнасць рухавіка 375 конскіх сіл, максімальная хуткасць 55 км/гадз. Аўтамашына ў кар'еры.*

Адначасова з заводам у Жодзіна вырас і гарадок аўтамабілебудаўнікоў. Яго ўпрыгожваюць шматпавярховыя сучасныя жылыя дамы, адзін з лепшых у рэспубліцы Палац культуры, працуюць прамтаварныя, прадуктовыя і іншыя магазіны, рэстаран, сталовыя, стадыён. Вуліцы маладога гарадка патанаюць у зелені дрэў і кветак.

Так звычайная вёска Жодзіна ператварылася ў шырока вядомы горад, які стаў радзімай непераўзыйдзеных пакуль што савецкіх аўтабагатыроў.

**Сцяпан Каламіец**
Фота **Э. Трыгубовіча**

---

## ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ У „НІВЕ"

**З пленума ГП БГКТ ● Інтэрв'ю з І сакратаром ПК ПАРП у Бельску ● У савецкай Белавежы ● Беларускія Калумбы ● Літаратурная старонка ● Дом культуры ў Войшках ● Усё аб яйку ● Поспех Зінаіды Вішнеўскай ● Весткі з Давідавіч, Бельска, Крывяціч, Цялушак, Гайнаўкі, Чаромхі, Пяньkoў, Грэдалёў, Галадоў, Астраўка, Кухмаў, Чыжоў і інш. ● Калі сніцца вэлюм ● Песня „Co mnie w tobie zachwyciło".**

---

НА ШЛЯХУ ДА ПЕРАМОГІ




Бацькі ў Пятра Кульгаўчыка не стала, калі яму ішоў адзінаццаты год. Пастушкаваў ён улетку ў ляснічага ў Белавежы, а ўзімку туліўся разам з усёй сям'ёй пры старэйшым браце, што працаваў на белавежскім тартаку. Калі падрос, на жыццё спрабаваў зарабіць на гайнаўскіх прадпрыемствах. Беспрацоўе душыла мястэчка. Удавалася два або тры разы ў тыдзень дастаць работу, калі нехта з сталых рабочых якраз захварэў...

Барвовая восень 1939 года прынесла ўсё: сталую працу, пашану і самае вялікае шчасце ў кожнага працоўнага чалавека — упэўненасць у сваю будучыню. Перад былым сіратой-пастушком і беспрацоўным Савецкая ўлада адкрывала новае жыццё. І ў імя яго П. Кульгаўчык са шчырай ахвотай пайшоў у ваенкамат, калі атрымаў павестку аб прызыве на ваенную службу. А служыць у Чырвонай Арміі давялося яму аж у Памірскіх гарах на граніцы з Афганістанам, у горадзе Куляб. Незвычайная краса горнай прыроды, сардэчныя новыя сябры з розных рэспублік Краіны Саветаў, тактоўныя і чулыя афіцэры-выхаваўцы — усё складвалася як найлепш.

### „ТАВАРЫШЫ, СЁННЯ Ў ЧАТЫРЫ ГАДЗІНЫ..."

— Як сёння памятаю, быў вечар 22 чэрвеня 1941 года. Наша падраздзяленне было ў кіно. З зацікаўленнем глядзелі мы „Чапаева", — успамінае П. Кульгаўчык. — Раптам кінамеханік спыніў апаратуру, уключыў на зале святло. Перад экранам паявіўся камісар нашага палка. Папрасіў цывільныя асобы пакінуць залу. А калі засталіся толькі вайсковыя і члены іх сем'яў, дрыжачым ад хвалявання голасам аб'явіў: „Таварышы, сёння ў чатыры гадзіны раніцы войскі гітлераўскай Германіі напалі на нашу Радзіму, а фашысцкая авіяцыя бамбіла Беласток, Брэст, Мінск, Кіеў..."

Кінамеханік ужо не ўключаў апаратуру. Хуткім маршам яны падаліся ў часць, атрымалі поўнае франтавое забеспячэнне, і неўзабаве іх часць была перавезена самалётамі ў Ташкент, і там з усёй дывізіяй рыхтавалася да адпраўкі на фронт. А з захаду прыходзілі штораз больш трывожныя весткі. Адно за другім ад'язджалі на захад падраздзяленні іх дывізіі. П. Кульгаўчык разам са сваімі сябрамі прагна чакалі такога ж дня, але ён не настаў.

З заходніх абласцей надыходзілі транспарты з эвакуіраваным насельніцтвам і фабрыкамі, у паскораным тэмпе паўставалі таксама новыя заводы ўзбраення. Патрэбны быў дах для эвакуіраваных і новыя фабрычна-завадскія будынкі. І падраздзяленне, у якім служыў П. Кульгаўчык, атрымала загад: „Ваш фронт — гэта будова". Жылі па-франтавому ў палатках, жывіліся з палявой кухні, а кожны працаваў за траіх. У скалістай, спечанай паўднёвым сонцам зямлі кіркай выдзяўбсці катлаваны на фундамент — цяжкая справа, нялёгка было таксама ўзводзіць сцены і дах, калі завод ужо ішоў поўным ходам, а ля станкоў працавалі на тры змены адны дзеці, жанчыны ды сівыя старэчы. Было цяжка, надта цяжка, але ніхто не апускаў рук, ведаючы, што на фронце яшчэ цяжэй. Кожны куточак вялікай Краіны Саветаў жыў адной ідэяй: „Усё для фронту!"



Не паспявала падраздзяленне закончыць адну будову, як зараз жа яго перакідвалі ў іншую мясцовасць Сярэдняй Азіі, каб пачынаць новы аб'ект. Многа, вельмі многа іх збудаваў П. Кульгаўчык. І звычайным рабочым, і потым, пасля курсаў, кіраўніком самастойнага будаўнічага прадпрыемства з калектывам у сто дваццаць жанчын і вучняў прафесіянальнай школы. Але надзея, што калі не заўтра, дык паслязаўтра ён будзе накіраваны на фронт, не пакідала яго. Ён жыў гэтай надзеяй.

(Працяг на стар. 5)

---




**Niedziela 27.IV.** 6.25 Tech. Rol. Upr. rośl. 6.55 Mech. rol. 7.25 Kurs Rol. 8.00 Przyp., radz. 8.10 Now. w domu i zagr. 8.35 Bieg po zdr. 8.50 Sport. 8.55 Pr. dnia. 9.00 Teleranek. 10.30 Antena. 10.50 Portret Picassa — film dok. fr. 11.50 Droga przez pustynię — rep. 12.10 Dzien. 12.30 Horyzonty. 13.05 Śpiewa D. Lerska. 13.35 Radar. 13.50 Piórkiem i węglem. 14.15 Dla dzieci. 14.50 Nie tylko dla pań. 15.20 Los. Toto-Lot. 15.35 Wielka gra. 16.30 Lektury Peg. 16.45 Refl. ob. 17.00 Tele-Echo. 18.00 Sport. 19.15 Wieczorynka. 19.30 Dzien. 20.20 Bajka dla dor. 20.25 Wirginia — film ser. ang. (Bel Ami) odc. IV. 21.10 Sam na sam ze St. Grochowiakiem. 22.20 Sport.

**Poniedziałek 28.IV.** 12.45 Tech. Rol. Wskaz. met. 13.25 Mat. 15.50 Nurt — Psych. 16.25 Pr. dnia. 16.30 Dzien. 16.40 Dla dzieci. 17.30 Echo stad. 17.55 Kur. Maz. 18.10 Laur. Konk. Chop. Eugene Indjic. 18.25 Kr. Warsz. i Maz. 18.45 Szare na złote. 19.20 Dobr. 19.30 Dzien. 20.20 Teatr TV: M. Gorki „Jegor Bułyczow i inni". 22.00 Pegaz. 22.45 Dzien. 23.00 Oferty.

**Wtorek 29.IV.** 6.30 Tech. Rol. Wskaz. met. 7.00 Mat. 9.00 Wirginia — film ser. ang. (Bel Ami) odc. IV. 10.00 Dla szkół: (kl. VI) J. pol. J. Chełmoński. 10.30 One szły na Berlin — film fab. radz. 13.45 Tech. Rol. Chem. 14.30 Ochr. rośl. 16.25 Pr. dnia. 16.30 Dzien. 16.40 Dla dzieci. 17.10 Na wielkim i małym ekranie. 17.40 Krąg. 18.20 Kr. Warsz. i Maz. 18.40 Eureka. 19.20 Dobr. 19.30 Dzien. 20.20 One szły na Berlin — film fab. radz. 21.35 Dzien. 21.50 Sport. 22.00 Kabaret Star. Panów.

**Środa 30.IV.** 6.30 Tech. Rol. Chem. 7.00 Ochr. rośl. 9.00 Dla szkół: (kl. VIII) Chem. Ważny kwas. 9.30 Ten nieznośny dziadek — film fab. fr. 13.00 Tech. Rol. J. pol. 13.35 Mat. 14.10 Politech. Kurs przyg. Fiz. 15.10 Nurt — Naucz. pocz. mat. 15.45 Pr. dnia. 15.50 Dzien. 16.00 Dla dzieci. 16.30 Kr. Warsz. i Maz. 16.50 P. nożna CSRS — Portugal. 18.45 Majowe dzieje. 19.20 Dobr. 19.30 Dzien. 20.20 Z najlepszymi życzeniami. 21.50 Dzien. 22.05 Sport. 22.20 Ten nieznośny dziadek — film fab. fr.

**Czwartek 1 Maja 1975** 7.35 Pr. dnia. 7.40 Dzien. 7.50 Trans. z urocz. 1-Majowych w Moskwie. 8.35 STUDIO 1-MAJOWE. 9.50 Trans. z urocz. 1-Majowych w Warsz., miastach woj. i w stol. Kr. Soc. 14.00 Dla dzieci. 15.00 STUDIO 1-MAJOWE. 15.55 Finał Puch. Pol. w p. noż. Stal Rzeszów — ROW II. 17.45 STUDIO 1-MAJOWE. 19.20 Dobr. 19.30 Dzien. 20.35 Co kto lubi. 21.35 Awantura na letnisku — film fab. radz.

**Piątek 2.V.** 9.50 Awantura na letnisku — film fab. radz. 11.05 Dla szkół: (kl. II) Nasza estrada. 12.00 (kl. VIII) Wych ob. Polska w świecie. 12.45 Tech. Rol. J. pol. 13.25 Mat. 14.40 Politech. Kurs przyg. Mat. 15.50 Nurt — Psych. 16.25 Pr. dnia. 16.30 Dzien. 16.40 Dla dzieci. 17.20 Z receptą na zdr. 17.45 Spotk. z płk Z. Załuskim. 18.25 Kr. Warsz. i Maz. 18.45 Fakty, op., hip. 19.20 Dobr. 19.30 Dzien. 20.20 Teatr TV: Wł. Wojciechowski „Medalion". 21.10 Panorama. 21.50 Spoza gór i rzek. 22.20 Dzien. 22.35 Sport.

**Sobota 3.V.** 6.30 Tech. Rol. J. pol. 7.00 Mat. 9.00 Cichy Don — film fab. radz. cz. II. 13.45 Tech. Rol. Mat. 14.20 Hod. zwierz. 14.50 Pr. dnia. 14.55 Pr. I prop. 15.10 Kr. Warsz. i Maz. 15.30 Red. szk. zap. 15.40 Inf. Wyd. 16.00 Dzien. 16.10 Dla dzieci. 16.35 Dla mł. Sobota w Ursusie. 17.30 Sport. 19.20 Dobr. 19.30 Monitor. 20.20 Najdłuższy dzień — film fab. USA. 23.20 Dzien. 23.40 Sport. 23.55 Don Juan — pr. rozr. hiszp.




**Piątek 25.IV** — 17.30 Wiersze poetów radz. 17.45 Film fab. 19.30 Spektakl muz.

**Sobota 26.IV** — 12.40 Śpiewa P. Lisicjan. 15.00 P. nożna. Spartak — Dynamo (Tbilisi). 17.25 Film fab.

**Niedziela 27.IV** — 11.30 Film fab. 16.15 Film anim. 16.30 Film dok. 17.00 Klub film. 18.00 Koncert. 19.30 Panorama film.




**Białowieża** Spokojne miejsce na wsi — wł. 30.IV—1.V.

**Czeremcha** Nie zestarzejemy się razem — fr. 29.IV—1.V.

**Czyże** Nagrody i odznaczenia — pol. Nieszczęście Alfreda — fr. 30.IV—4.V.

**Dubicze Cerkiewne** Ciemna rzeka — pol. Stopień ryzyka — radz. 30.IV—4.V.

**Kleszczele** Pułapka w delcie Dunaju — rum. Pierwsza spokojna noc — wł. 30.IV—4.V.

**Michałowo** Macmasters — USA 29—30.IV.

**Milejczyce** Helga — NRD. Zła noc — czes. 30.IV—4.V.

**Narew** Potop — pol. 30.IV—4.V.

**Narewka** Prywatny detektyw — ang. Miłość w przyrodzie — węg. 30.IV—4.V.

**Nurzec** Wkrótce nadejdzie wiosna — radz. Rodeo — USA 30.IV—4.V.

**Rajsk** Chłopi — pol. 30.IV—4.V.

**Suchowola** Nikt nie chciał umierać — radz. Helga — NRD 30.IV—4.V.

B.Z.Graf. zam. 1257 P-1

(Працяг са стар. 1)




I так было кожны год. Калі ў першамайскі дзень жыхары Гайнаўкі чулі пабудку ў выкананні рабочага аркестра, многія з іх гаварылі:

— *Чуеш, Бельтэр зноў прыехаў на чырвоным кані.*

Ян Бельтэр — заслужаны рэвалюцыянер. Ён і Станіслаў Дзібуа — пасол у даваенны Сейм ад імя сацыялістаў, найчасцей выступалі на розных сходах і мітынгах рабочых. Не баяўся ён паліцаяў, якія неаднойчы забіралі яго за краты.

Вось у 1933 г. тая ж газета паведамляла, што *„шматтысячны паход прайшоў вуліцамі Гайнаўкі. Рабочыя, як штогод, урачыста святкавалі Першамай. Гайнаўскія і навакольныя тартакі, а таксама хімічная фабрыка не працавалі“.*

Толькі ўрадавая цэнзура не дазваляла пісаць аб арыштах і здзеках паліцыі на рабочых. У красавіку 1932 года без ніякай прычыны загінуў ад паліцэйскай кулі малады рабочы Ян Верпахоўскі. Амаль кожны год напярэдадні Першага мая паліцыя саджала за краты найбольш актыўных дзеячоў КПЗБ, ППС і класавых прафсаюзаў. Чырвоная Гайнаўка аднак не паддавалася. Арыштаваных замянялі іншыя рабочыя.

Гляджу на пажоўклыя фатаграфіі, якія знаходзяцца цяпер у Гайнаўскім аддзяленні Беластоцкага музея рэвалюцыйнага руху. Год 1935. Першамайскі мітынг. Выступае пасол Дзібуа. Над галовамі рабочых чырвоныя сцягі і транспаранты з лозунгамі. Год 1937. Цэлы рынак у Гайнаўцы запоўнены натоўпам людзей, галава пры галаве. Вакол трыбуны чырвоныя сцягі. Фатограф занатаваў: „1 Май 1937 г.“ На здымку з 1938 года бачым групу гайнаўскай моладзі. Станіслаў Мілкоўскі трымае сцяг Таварыства рабочых універсітэтаў. Гэта прагрэсіўная арганізацыя, якая заўсёды актыўна ўключалася ў святкаванне Першамая. Станіслаў Мілкоўскі ў час акупацыі стаў партызанам і гераічна загінуў, абараняючыся ад гітлераўцаў, якія неспадзявана акружылі іх бункер.

Пасля вызвалення першае першамайскае святкаванне адбылося ў 1945 годзе. Тут спасылаюся на ўспаміны таварыша Сулімы.

— Як святкавалі Першамай пасля вызвалення? — паўтарае ён маё пытанне. — Гэта было ў 1945 г. Ужо дзевяць месяцаў жылі мы на свабодзе і, вядома, цешыліся тым, што закончылася лютая акупацыя. Ніхто не сумняваўся, што гітлераўскай Германіі засталіся ўжо лічаныя дні, чакалі мы толькі весткі аб заканчэнні вайны. Адначасова на нашым тадышнім тартаку пачалі мы даваць першую прадукцыю. Адбудавалі яго ўласнымі рукамі. Без інжынераў і тэхнікаў. Адны толькі рабочыя. Дзейнічала ўжо адна лесапільная машына, рушыла сталярня. Напярэдадні Першамая 1945 г. працавала ў нас звыш 100 рабочых. Сабраліся мы тады на тартаку і пад чырвоным сцягам пайшлі пад цяперашняе кіно „Ляснік“, дзе з прамовай — з балкона — выступіў афіцэр Войска Польскага. Гаварыў аб славутым Маніфесце Польскага камітэта нацыянальнага вызвалення, аб новай народнай Польшчы, якую трэба збудаваць рукамі рабочых і сялян. Цяпер гэта гучыць вельмі проста і нават наіўна. А тады... браце мой... тады слёзы ў вачах стаялі і сэрца неяк нязвыкла білася.



*Ян Бельтэр — заслужаны рабочы, дзеяч з Гайнаўкі, арганізатар першамайскіх святкаванняў.*



*Рабочыя хімічнай фабрыкі збіраюцца ў Першамайскі паход у 1937 г.*

Пайшлі мы вуліцамі Бучка, Варынскага, Ліповай, — да плошчы Рэзервістаў, дзе традыцыйна праходзілі ўсе мітынгі.

Успаміны таварыша Сулімы папаўняе заслужаны пенсіянер Язэп Каспшак.

— Ад 9 жніўня 1944 года быў я ўжо членам Польскай рабочай партыі. Разам са мною дзейнічалі Масевіч, Чапля, Цюка, Паплінскі і іншыя таварышы. Была ўжо ячэйка Польскай сацыялістычнай партыі. Наладзілі мы дзейнасць прафсаюзнай арганізацыі. І так усе разам дамовіліся, што гэты Першамай будзем святкаваць асабліва ўрачыста. Бо як жа? Мы ж да вайны, калі паліцыя ганяла нас па ўсіх кутках, не прапусцілі ніводнага свята працоўнага люду, а цяпер, калі свабода...

Гэты Першамай святкавала ўся Гайнаўка. Рабочыя і сяляне, вучні ўсіх школ, звычайныя жыхары горада. Першы сцяг нёс таварыш Сокул, выступаў — як заўсёды — Ян Бельтэр...

Калі я ў палавіне красавіка наведаў Павятовы камітэт партыі ў Гайнаўцы, таварышы з аддзела прапаганды якраз абмяркоўвалі падрыхтоўку да сёлетніх першамайскіх святкаванняў. Будзе гэта ўжо 30 Першамай у свабоднай краіне.

**Віктар Рудчык**




# Беларусы

## ў студэнцкім руху

У кніжцы Эўгеніюша Філіпайціса „Левы лагер студэнцкіх палітычных арганізацый у Вільні (1930 — пач. 1935)“ шмат увагі ўдзяляецца беларускім студэнтам і іх арганізацыям. Выдала яе Беластоцкае навуковае таварыства.

У навучальным годзе 1929-1930 на агульную колькасць 3.336 студэнтаў у Віленскім універсітэце беларусаў налічвалася пяцьдзесят пяць асоб. Трэба памятаць, што галоўную ролю Вільні ўлады бачылі ва ўмацаванні ды пашырэнні паланізацыі т.зв. крэсаў.

У 1932 годзе арганізацыя беларускай студэнцкай моладзі налічвала ўжо каля 100 асоб. У ёй адбывалася вострая барацьба паміж моцнай левай фракцыяй і групоўкай Беларускага нацыянальнага камітэта. Аднак жа, пасля разгрому Грамады і „Змагання“, беларускае студэнцтва апынулася пад уплывамі хадэцыі і санацыі. Апошняя — утварыла ў 1931 г. канвент „Скарынія“, з 15-ці членаў. „Скарынія“ апынулася ў вострым канфлікце з Саюзам беларускіх студэнтаў, у сувязі з адносінамі да Аб'яднання беларускіх студэнцкіх арганізацый, якое мела сядзібу ў Празе. (У Чэхаславакіі вучылася шмат беларусаў).

Пастутова зноў умацоўваліся рэвалюцыйныя ўплывы.

Найбольш выдатнай постаццю сярод віленскага студэнцтва з'яўляўся Генрык Дэмбінскі, чалавек незвычайнага теленту і вялікага пачуцця асабістай годнасці. (Узамен за адрачэнне ад сваіх ідэалаў кіраўнікі тагачаснай Польшчы ахвяроўвалі Дэмбінскаму міністэрскія пасады). Дэмбінскі моцна цікавіўся дзейнасцю Беларускай сялянска-работніцкай грамады. І, мабыць, гэта ягонае зацікаўленне стала прычынаю таго, што пачаў ён шукаць шляхоў супрацоўніцтва з беларускім студэнцкім асяроддзем. Спробы паразумецца з арганізацыйным кіраўніцтвам беларускіх студэнтаў закончыліся няўдачай. І тады Дэмбінскі пачаў наладжваць кантакты з дзеячамі рэвалюцыйнай фракцыі гэтага асяроддзя, перш за ўсё з Максімам Танкам.

На фоне развіцця віленскага студэнцкага руху асабліва заўважальная спецыфіка эвалюцыі польскай інтэлігенцыі ў напрамку рэвалюцыйнага руху.

**С. Яновіч**




...кожны дзень у Савецкім Саюзе родзіцца 11 тысяч дзяцей.

...у СССР ёсць 100 тысяч ясляў і дзетсадаў, у якіх прабывае 10 млн. дзяцей.

(ті)




# БЕЛА-РУСКІМ

Аб „Беларускіх календарах“ можна гаварыць многа. Я хачу выказаць сваю канцэпцыю і думку знаёмых. Я пісьманосец, штодзённа нашу пісьмы і газеты, і таму сёе-тое ведаю, як людзі ацэньваюць свой родны каляндар.

Перш за ўсё наш каляндар павінен быць тыпова беларускім, павінны ў ім быць амаль усе весткі пра сучаснасць, павінна таксама быць нешта з гісторыі, геаграфіі, астраноміі, сельскай гаспадаркі, літаратуры, павінны быць розныя навінкі-рэдкасці і (важнае): наш родны фальклор (песні, казкі, гумар). Многія жадаюць змяшчаць, апрача старога стылю (які, як вядома, ёсць у календары) важнейшыя дадзеныя аб праваслаўнай веры.

Каляндар павінен быць аб'ёмісты. Людзі хочуць такой кніжкі-даведніка.

Гэта не значыць, што я крытыкую і паніжаю календары ўжо выдадзеныя. Няпраўда! „Беларускія календары“ ад першага да апошняга, агульна кажучы, добрыя. Ды каб былі дрэнныя, людзі іх не куплялі б. А то купляюць. І то як! Колькі экземпляраў я сам прадаў! Не пералічыць. На тэрыторыі, якую я абслугоўваю, наш каляндар жыхары любяць і шануюць найбольш.

Толькі шкада, што „Беларускі каляндар“ не паступае (як іншыя календары) у паштовыя ўстановы для продажу насельніцтву. Варта ГП БГКТ аб такой магчымасці кальпартажу календароў падумаць. Я з гэтым пытаннем спраўляюся сам, бо мне яно, як і падпіска „Нівы“, вельмі блізкае. Таму хачу каб наш каляндар з кожным годам лепшаў і лепшаў.

Калісьці быў у мяне беларускі каляндар з 1914 года. Паверце, была гэта дасканалая кніжка. У ёй былі змешчаны (і то шмат) творы Янкі Купалы, Якуба Коласа. Друкаваўся таксама многа нейкі Стары Улас. Хто гэта?

Мая канцэпцыя: беларусам — беларускі каляндар.

**Мікалай Панфілюк**

■ Нядаўна ў Нараўцы арганізаваўся гурток БГКТ пры ГС-е. Старшынёю яго з'ўляецца прэзас ГС-у Валянціна Панфілюк.

■ 6 красавіка на сходзе ў вёсцы Дзяніскі (Бельскі павет) больш як 20 чалавек пазнаёміліся са статутам БГКТ і падпісалі членскія дэкларацыі. Прысутныя выбралі праўленне гуртка, якое ўзначаліў Юрка Рыбка.




■ 9 красавіка ў Кляшчэлях адбыўся арганізацыйны сход гуртка БГКТ. Сярод 20 асоб, падпісаўшых членскія дэкларацыі, былі ў асноўным працаўнікі гміннага ўпраўлення і ГС-у. Старшынёю гуртка выбраны кіраўнік СОП-у Цімафей Цімашук.

■ 10 красавіка прэзідыум праўлення беластоцкага павятовага аддзела абмеркаваў стан беларускага чытальніцтва ў павеце, падсумаваў конкурсы БГКТ — харавы і тэатральны, а таксама зацвердзіў новапрынятых членаў БГКТ.

■ З нагоды Дзён савецкай культуры жаночы харавы калектыў з Гарадка даў 11 красавіка канцэрт у Чорнай Беластоцкай. (мх)




*Уладзімір Высоцкі, Бабруйск. Скульптура па дрэву „Нарачанскія рыбакі“.*



*У кулуарах з'езду сустрэліся сябры п а пяру. Першыя знаёмствы, першыя ўражанні. Злева: першы карэспандэнт 1974 г. — Уладзімір Хомік, другі карэспандэнт года — Эдмунд Вайсковіч, актыўныя карэспандэнты — Уладзімір Сідарук і Мікола Краўчук.*

(Працяг са стар. 1)

## З'езд карэспандэнтаў

На з'ездзе прысутнічала кіраўніцтва галоўнага праўлення БГКТ і „Нівы", а таксама мілы госць з Мінска, які наведаў рэдакцыю. Госць з Мінска — Алесь Матусевіч 55 год працаваў журналістам, ды і цяпер яшчэ супрацоўнічае з рознымі рэдакцыямі. Пачынаў ад кароткіх заметак, як карэспандэнт.

Алесь Матусевіч у цёплых словах звярнуўся да карэспандэнтаў: „Як пчала ў вулей, так і вы павінны цягнуць усё найлепшае ў „Ніву", — сказаў ён. Расказаў таксама коратка пра сваю працу, пра партызанскую газету, якую выдаваў і пра некаторыя эпізоды з сваёй багатай біяграфіі. Выступленне госця пакінула на ўсіх моцнае і хвалюючае ўражанне.

З'езд карэспандэнтаў „Нівы" мінутай цішыні ўшанаваў памяць Нестара Пераў вос — шматгадовага актыўнага карэспандэнта з Бельска, які памёр пару тыдняў да з'езду.

Тром першым карэспандэнтам года 1974 — „Т.К.", „Расе" і Мікалаю Панфілюку галоўны рэдактар „Нівы" уручыў на з'ездзе ўзнагароды. Дваццаць найбольш актыўных карэспандэнтаў атрымалі дыпломы.

**Вера Леўчук**

Фота **Я. Цялушэцкага**



*Група ўдзельнікаў з'езду на сямейным здымку.*

(Працяг са стар. 1)

## Рэвалюцыя ў Нарве

А ў Нарве доўга думалі, што рабіць з безгаспадарскай зямлёй, якая ўсё часцей зарастала пустазеллем, як палепшыць забеспячэнне сялян трактарамі і іншымі сельскагаспадарчымі машынамі. Думалі і ўсё часцей азіраліся на прадукцыйныя кааператывы ў Васьках, Макаўцы, Тыневічах Вялікіх і ў Іванках.

Разам гэтыя кааператывы апрацоўваюць цяпер амаль 1000 га зямлі. Усе паказчыкі сельскагаспадарчай вытворчасці ў іх шмат вышэйшыя ад сярэдніх для ўсёй гміны і павету, а высокая механізацыя палявых работ значна аблягчае працу іх членам. Маюць яны цяпер розныя машыны, 17 трактараў падмяняюць ім коней, 2 камбайны тыпу „Бізон" праводзяць уборку збожжа, растрасальнікі вывозяць і растрасаюць гной на палях, машыны садзяць і збіраюць бульбу, адзін грузавік і два „Жукі" дастаўляюць неабходныя тавары, уласны аўтобус возіць кааператараў на экскурсіі.

Толькі асобным кааператывам станавілася ўжо цеснавата на сваіх дзялянках. Ваські маюць 300 га поля, Макаўка — 260, Тыневічы — ледзь 150, а Іванкі — 240.

Дык сельскагаспадарчыя кааператывы з наваколля Нарвы рашылі аб'ядначца, а дакладней гаворачы — **яны рашылі стварыць зусім новую кааператыўную гаспадарку з сядзібай у Нарве.**

— Гэта прапанова нашага партыйнага і грамадскага актыву, — сцвярджае начальнік Нараўскай гміны Віталіс Пякарскі. — Нараўская кааператыўная гаспадарка бярэ на сябе абавязак загаспадарыць цэлы дзяржаўны фонд зямлі, якога ў 1980 г. будзе ў нас ужо амаль 3.000 гектараў, яно забяспечыць сялян сельскагаспадарчай тэхнікай і адначасова будзе вялікім сельскагаспадарчым камбінатам, перш за ўсё жывёлагадоўчым. Вось праграмаператварэння цяперашніх кааператываў у адну вялікую кааператыўную гаспадарку, — начальнік падае мне нейкі даклад, запоўнены лікамі. — Яе, — дадае ён, — ужо адобрылі павятовыя і ваяводскія ўлады.

З аналізу лікаў, змешчаных у гэтай праграме, вынікае, што праз 5 год гадоўля кароў у нараўскай кааператыўнай гаспадарцы павялічыцца ў тры разы, свіней будзе больш у 8 раз, авечак, якіх толькі што пачалі разводзіць, назбіраецца 1800 штук, а гадавая прадукцыя мясных куранят узрасце да мільёна штук. Будзе гэта сапраўды шматмаштабная прамысловая вытворчасць жывога мяса. Яна патрабуе спецыялізацыі. Ваські бяруць на сябе адкорм свіней і кароў, у Тыневічах Вялікіх і Даратынцы — гадаваць будуць мясное быдла, перш за ўсё так званыя „букаты", у Іванках і Храбустоўцы бяруцца разводзіць авечак, а Макаўка зоймецца свінаматкамі і парасятамі.

Такія мерапрыемствы патрабуюць новых капіталаўкладанняў у суме звыш 300 млн. злотых. Трэба пабудаваць 12 абораў для цялят-букатаў, 4 аўчарні, 5 хлеўняў для свіней і адну аграмадную ферму для вырошчвання куранят на 1 млн. штук.

Кааператары разлічваюць галоўным чынам на ўласныя сілы. Яны хочуць спалучыць уласную рамонтна-будаўнічую групу з калектывам Нараўскага прадпрыемства сельскагаспадарчага будаўніцтва і супольнымі сіламі, пад адным кіраўніцтвам ажыццяўляць будаўніцтва не толькі для патрэб уласнай кааператыўнай гаспадаркі, але таксама і для ўсіх сялян Гайнаўскага павету.

Плануючы гэтыя пераўтварэнні ў гаспадарчай галіне Нараўскай гміны, кааператары не забываюцца аб патрэбах людзей, якім прыдзецца ажыццяўляць гэтыя планы. Таму за свае грошы будуюць яны жылыя дамы ў Нарве, Васьках, Макаўцы, Іванках, Даратынцы і Тыневічах Вялікіх. Будуць гэта пераважна жылыя дамы для 3-4 сем'яў, забяспечаныя ўсімі выгодамі.

Значыць, у ціхай і соннай Нарве пачынаецца нешта новае, што вялікім штуршком рушыць наперад жыццё ўсяе гміны. Ствараюцца палявыя і будаўнічыя брыгады. Патрэбны розныя спецыялісты. Узнікаюць магчымасці авансу для кемлівых людзей. І ў гэтым асноўны сэнс нараўскай „рэвалюцыі".

*М. Нурэцкі*

## Маленькая, але ўдаленькая

Ёсць на Гайнаўшчыне маленькая вёсачка Барок. У ёй налічваецца толькі 18 гаспадарак. Але, паводле слоў кіраўніка сельскагаспадарчай службы Гайнаўскай гміны Івана Байко і агранома Уладзіміра Ціханюка, няма ў гэтай вёсцы гаспадарак, якія з кожным годам слабеюць эканамічна. Наадварот.

Цяпер на палі Гайнаўшчыны ўводзіцца новая культура — цукровыя буракі, і ў вёсцы Барок большасць гаспадароў пачала яе вырошчваць. Усе жыхары Барка актыўна ўключаюцца ў грамадскую працу, вартасць якой у мінулым годзе для кожнага жыхара акрэслівалася сумай 2400 зл. Цяпер барчане самі рамантуюць дарогу, якая спалучае іх вёску з шашою Гайнаўка-Кляшчэлі. У конкурсе „Беластоцкая вёска — гаспадарная і культурная" Барок заняў другое месца сярод 23 салэцтваў гміны.

У сувязі з планамі Беласточчыны ў развіцці жывёлагадоўлі сяляне Барка абавязаліся павялічыць гадоўлю на 22 штукі быдла, 71 штуку свіней і на 22 галавы авечак.

Дзякуючы добрай апрацоўцы зямлі, добраму і разумнаму яе ўтнаенню, сяляне атрымліваюць рэкордныя ўраджаі збожжа, звыш 30 цэнтнераў з 1 га. А такія гаспадары, як Уладзімір Чурак, Іван Чурак, Мікалай Галёнка і некаторыя іншыя, дабіліся па больш як 36 цэнтнераў з 1 га.

(мх)

## „Ой, пуойду я пуод ліесок на часок..."

Калі на сёлетнім цэнтральным аглядзе „Беларуская песня-75" у Беластоку выступіў квінтэт з **Арэшкава,** што ў Гайнаўскім павеце, і на два галасы праспяваў мясцовыя народныя *„Чого, мамо, прызаплакала..."*, якая калісьці ў вясельнай абрадавасці належала да рэпертуару „паненскага вечара", і *„Ой, чом то на дворыэ нэ відно..."* пра трагедыю беднай вясковай дзяўчыны, да якой „ходзіць" багаты, але ненавісны ёй кавалер і за якога, пэўна, бацькі выдадуць яе, — не было канца апладысментам. Гледачоў запаланілі чароўныя мелодыі і натуральная чысціня іх выканання. І ў змесце песень і ў арыгінальнай колішняй народнай вопратцы спявачак уся зала адчула нейкі асаблівы подых спрадвечнай Белавежскай пушчы.

І вось я ў Арэшкаве. З шырокай вуліцы відаць зубчатыя вершаліны пушчанскага ўрочышча Круглае, дзе, як кажуць тутэйшыя людзі, пры ўпадзенні ручая Лозіцы ў рэчку Хвішчэй высіцца самы магутны, пасля нядаўняй смерці старэчы „Ягайлы", у Белавежы Цар-



*Вера Кошаль таксама любуецца і ў народных песнях і ў тканні ўзорыстых дыванoў.*

дуб. Арэшкава — вёска сучасная, з электрычнасцю, тэлефонам, крамай, вясковым домам культуры і асфальтнай шашой. Маладыя мужчыны працуюць пераважна ў Гайнаўцы або на чыгунцы, жанчыны ж і старэйшыя арэшкаўцы вядуць гаспадаркі. Добра развіваецца тут гадоўля, і ўраджаі на палях не благія. Людзі жывуць заможна, амаль няма тут саламяных стрэхаў, тут і там вырастаюць сучасныя мураваныя двухпавярховыя дамы. Здавалася б, змрочнае мінулае даўно адышло адсюль і цалкам забылася. Аднак тры тутэйшыя, вядомыя на ўсю ваколіцу, спявачкі: **Анна Парфенюк** з 1923 года нараджэння, **Вера Кошаль** — з 1926 года і **Надзея Грушэўская** з 1942 года падаюць мне на магнетафонную стужку 16 твораў, большасць якіх па сваёй даўгавечнасці зыходзяць у адлеглую мінуўшчыну і амаль могуць лічыцца равеснікамі легендарнага Цара-дуба. Пра іх самі спявачкі кажуць, што спяваліся яны „колісь-проколісь, шчэ нашымі бабкамі і прабабкамі, а то можэ дэ і пэрэд імі".

І праўда. Вось хоць бы вяснянка-„огулька" *„Там за ліесом за бором..."*, што да нядаўняга часу спявалі тут дзяўчаты паміж вялікаднем і правадной нядзеляй, выйшаўшы вечарам на вуліцу і сеўшы на лавачках-„кладках". Вясёлая, аптымістычная мелодыя і насычаны першабытным антрапамарфізмам змест песні расказвае, як *„за ліесом"*, *„за бором"*, *„за сінэнькім езёром"* *„сонэчко іграло"* і *„з міесэцём розмовляло"*. Месяц абяцае асвяціць *„нэбо-зэмлю"* і *„сэло Горэшково"*, а адначасо-

З савецкага гумару

Збіраў грошы — і не дзіва,
Што мала піў і мала еў.
Калі і піў, дык толькі піва,
І то тады, як воблу меў.

Ён зноў кручу у сне баранку
(Мець „Масквіча“ — зайздросны лёс) —
Тайком аднойчы вёз каханку,
Куды, не памятае, вёз.

Мінуў „Казла“, і гэта ж трэба...
Хацеў мінуць і „Волгу“ ён —
Насустрач „МАЗ“, „Масквіч“ — аб дрэва!
Душа — на неба! Толькі звон...

Адтуль глядзіць яна на цела
Паміж абломкаў „Масквіча“.
Каханка быццам амярцвела,
Пасля прыпала да пляча:

# Гісторыя аўтааматара

— О божа мой! Адкуль бяда ўся?
Такую рэч не ўратаваў...
Няхай бы сам не страхаваўся,
А „Масквіча“ застрахаваў!

Ён чуе, як яна галосіць,
І бачыць (ціша на зямлі),
Што хтосьці змоўкнуць не просіць.
Ага, інспекцыя ДАІ.
І... ён прачнуўся. Сэрца б'ецца.

„І праўда, я заснуў? Калі?..
Вось гэта сон! Ды я, здаецца,
Стаю ў чарзе на „Жыгулі“.

Ну што ж, машыну застрахую,
А заадно сябе, відаць,
А то праз дробязь вось такую
Мог богу і душу аддаць.

**Яўген Верабей**

### МАЕШ ШЧАСЦЕ

— Як добра, старая: сядзім у хаце і ўвесь свет бачым! — гаворыць дзядуля бабулі.

— Маеш ты шчасце, што калісь не было тэлевізараў: колькі прыгожых хлопцаў ёсць на свеце!







### КРАКАДЗІЛ

На аўтобусным прыпынку стаіць чалавек. Побач з ім зялёны кракадзіл. Падыходзіць аўтобус.

— Я на гэтым не паеду, хачу на другім, — кажа кракадзіл.

Прыходзіць другі аўтобус.

— А я на гэтым таксама не хачу, — хныкае кракадзіл.

— Ну, вось што, — не вытрымлівае чалавек, — калі ты не спыніш свае капрызы, я зараз жа працеразею, і ты знікнеш.

### БІФШТЭКС

— Афіцыянт! Гэты біфштэкс, напэўна, з каня: ён такі жорсткі, што яго немагчыма разрэзаць!

— Вы памыляецеся, каня ўжо з'елі, — гэты біфштэкс з вола!

### З ГАБРАВА

Адзін габравец разбагацеў і паехаў у Парыж. Перад ад'ездам ён абяцаў радні, што будзе рэгулярна прысылаць адкрыткі з відамі вялікага горада. Доўга ад яго нічога не было. Урэшце ён прыслаў адкрытку з малюнкам Эйфелевай вежы. На адвароце адкрыткі габравец напісаў: „Гэта Эйфелева вежа. З яе відаць усё астатняе“.

### ШКАЛА ХЛОПЦА

Вярнуўся Пятро з працяглай камандзіроўкі, а насустрач сусед:

— З прыездам, Пятро! А ты яшчэ не ведаеш, што твая жонка цябе пакінула і выехала з Грышкам?

Памаўчаўшы ад нечаканасці, Пятро сказаў:

— Шкада... Добры хлопец быў.

### ПАМАГЛІ

У рэдакцыю прыйшоў ліст: „Паважаны рэдактар! У мінулы аўторак я згубіў залаты гадзіннік, які з'яўляецца нашай сямейнай рэліквіяй. Мне параілі даць аб'яву ў вашай газеце, што я і зрабіў. На другі дзень, прыйшоўшы дамоў, я знайшоў гадзіннік у кішэні іншага пінжака. Хай жыве ваша газета!“

## МІНІВЕРШЫ

### ДЫЛЕМА

Выбірай з двух адно:
Або тпру, або но!

*І. Курбека*



### ХІТРУН

— Я катэгарычна забараняю табе гуляць з хлопчыкам, які жыве паверхам ніжэй. Ён дрэнна выхаваны.

— А я лепш выхаваны, чым ён?

— Так.

— У такім выпадку яму можна гуляць са мною?



### ПЕСНІ ПА ЗАЯЎКАХ

*Па просьбе Ані Бышчук з Кузава і Люцыны Чэпель з Барысаўкі змяшчаем песню:*

## Do łezki łezka

**słowa: Jonasz Kofta**
**muzyka: Andrzej Korzyński**
**śpiewa: Maryla Rodowicz**

Autobusy zapłakane deszczem
Wożą ludzi od siebie do siebie
Po błyszczącym mokrym asfalcie
Jak po czarnym błyszczącym niebie
Od tygodnia leje w tym mieście
Ścieka wilgoć po sercu i palcie
Z autobusu spłakanego deszczem
Liczę gwiazdy na mokrym asfalcie

Do łezki łezka
Aż będę niebieska
W smutnym kolorze blue,
Jak chłodny jedwab
W kolorze nieba
Zaśpiewa kolor blue

Autobusy zapłakane deszczem
Jak ogromne polarne foki
Wyszukują w deszczu swe miejsce
Wydmuchując pary obłoki
Po zmęczonych grzbietach ich dreszczem
Przelatują neonów błyski
Autobusy zapłakane deszczem
Mają takie sympatyczne pyski

Do łezki łezka...

A gdy padać przestanie w tym mieście
Gdzie się z swoim smutkiem zmieszczę
W autobusie zapłakanym deszczem
Tam pojadę gdzie pada wiecznie.

Do łezki łezka...




### АТРЫМАЎ АДКАЗ

Вуліцаю мястэчка на возе едзе дзяўчына. Паганяе каня, нешта наспеўвае. Насустрач валачэцца франт, спыняецца, кідае калючку:

— Чаго вясёлая? З мілым цалавалася?

— А хіба ад гэтага вясёлыя бываюць?

— Ну, вядома.

— Тады пацалуй маю кабылу, а то яна чагосьці галаву павесіла, — адрубала дзяўчына.

### ЛУЖЫНА

Уласнік легкавога аўтамабіля засеў у вялізнай лужыне пры ўездзе ў вёску. Падвярнуўшамуся выратавальніку, селяніну з трактарам, ён вялікадушна працягнуў дваццаць злотых.

— Я вельмі шкадую, але гэта паслуга каштуе сто злотых, — сказаў селянін.

— Гэта ўжо занадта! Вы ж выцягнулі маю машыну за дзве мінуты, — засупярэчыў уласнік аўтамабіля.

— Што праўда, то праўда. Але вы не ўлічваеце, колькі я трачу часу, каб не даць лужыне высахнуць.

### ЗРАЗУМЕЎ

Гаспадар гасцініцы крытычна агледзеў новага пастаяльца і заявіў:

— Папярэджваю, што не пацярплю дзяцей, сабак, кошак ці папугаяў. І ніякай ігры на піяніна. І не ўключаць радыё! Вам усё зразумела?

— Усё, — пакорна адказаў пастаялец. — Ды ў мяне ёсць аўтаручка, і яна крыху скрыпіць...



### ПІСЬМО СЯБРУ

Пішу табе шчыра, як сябру. Твая справа дрэнь. Не ведаю, ці зможаш ты што паправіць. Ты гарыш з крадзяжом. Ну хто ж так бяздарна цяпер крадзе? Адагнуў на акне склада прэнт, раструшчыў голымі рукамі шыбу, улез нагамі на падаконнік... Гэта ж столькі пасля сябе пакінуць слядоў?! Вядома ж, міліцыі выкрыць такога злодзея — раз плюнуць.

А навошта было забіваць вартаўніка? Ад гэтага вельмі дрэннае ўражанне. Гэтым забойствам ты так абцяжарыў становішча, што я ад абурэння не знаходжу слоў.

Бадай, самае большае глупства вось якое: забіўшы вартаўніка, хто ж адразу панясе збываць крадзенае балбатуну і п'яніцы Пятру Дубінчыку.

Я доўга ламаў галаву, як дапамагчы табе, што можна зрабіць, каб звесці канцы з канцамі — усё ж ты мой сябар. І не дадумаўся. Выблытвайся сам, калі зможаш. Але настойліва раю: не займайся ты гэтымі забойствамі і крадзяжамі. Ты нічога ў іх не разумееш. Пішы пра тое, што добра ведаеш. Рукапіс тваёй дэтэктыўнай аповесці я табе вяртаю. З прывітаннем —

рэдактар Іван Жбан.

**Васіль Хомчанка**



**— Цяжка стварыць імя, — скардзіўся ананім.**

**...Некаторыя пішуць так, што мукі іх творчасці адчуваюць нават чытачы.**

## Курёзы

### ЗАДАМ НАПЕРАД

Супрацоўнік аўстралійскага радыё Джон Дункан прэтэндуе на ўстанаўленне сусветнага рэкорда... па ваджэнню аўтамабіля задам наперад. Такім „стылем“ ён гнаў сваю машыну 131 мілю. Новы „чэмпіён“ сцвярджае, што ім пабіты ранейшы рэкорд нейкага Пэта Гілкеса, які ў 1967 годзе праехаў такім манерам па дарогах Эфіопіі 84,5 мілі.

### НЕЗВЫЧАЙНАЕ ПАЛЯВАННЕ

Жыхары некаторых прыбярэжных раёнаў Кеніі, размешчаных на беразе возера Вікторыя, аб'явілі „свяшчэнную вайну“ кракадзілам, якія ў апошні час расплодзіліся ў такой велізарнай колькасці, што нярэдка пачалі нападаць на людзей. Чашу цярплівасці мясцовых жыхароў перапоўніў выпадак, які адбыўся нядаўна, калі ахвярай велізарнага кракадзіла на вачах у многіх людзей стаў 13-гадовы хлопчык. Гэта здарылася ля мястэчка Асарэ непадалёку ад кенійскага горада Кісуму.

Пасля гэтага мясцовае насельніцтва аднадушна вырашыла пакараць драпежнікаў, і перш за ўсё таго з іх, які напаў на хлопчыка. З гэтай мэтай былі выдзелены самыя вопытныя і спрытныя паляўнічыя. Некалькі дзён і начэй яны цярпліва высочвалі гэта страшыдла. Нарэшце, аднаму з іх — 65-гадоваму Аціена Джавуора ўдалося высачыць і забіць кракадзіла, даўжыня якога складала 5 метраў. За праяўленую смеласць і спрытнасць мэр горада Кісуму выдаў паляўнічаму грашовую прэмію.




**Бюро падарожжаў правільнага жыццёвага шляху не падкажа.**